

Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

# БЮЛЯТЭНЬ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ

Выдаецца Інфармацыйна-Выдавецкім Бюро Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады (г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3). — Падпісная плата на год 5 р. і на 1/2 г. 2 р. 50 к.

VI-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

| № 24 (98) | 10 сьнежня 1930 г. | № 24 (98) |
|---|---|---|

## ЗЬМЕСТ.

## Пастанова Урадавай Камісii СНК БССР па падрыхтоўцы правядзеньня 7-гадзіннага рабочага дня на прадпрыемствах БССР.

### Паст. 192. Пра перавод некаторых прадпрыемстваў на 7-гадзінны рабочы дзень у асобным квартале 1930 г.

Перавесьці ў асобным квартале 1930 г. (кастрычнік—снежань) на 7-гадзінны рабочы дзень наступныя прадпрыемствы:

**Па мэталёвай прамысловасьці:**

1. Завод „Пралятары"—Гомель
2. Завод імя Ланцуцкага— „
3. „ „Інтэрнацыянал"—Рэчыца
4. „ „Ударнік"—Менск
5. „ „Полымя Рэвалюцыі"—Менск
6. „ імя Сталіна—Бабруйск

**Па харчовай прамысловасьці:**

7. Броварны завод „Беларусь"—Менск
8. „ „ „Пралятары"—Магілёў
9. „ „ імя Бебеля—Віцебск
10. Пладавінны завод „Спартак"—Ворша
11. Кандзіцерская ф-ка „Камунарка"—Менск
12. „ „ „10-ы Кастрычнік"—Магілёў

**Па скураной прамысловасьці:**

13. Абутковая ф-ка—Менск
14. „ „ „Лекерта"—Віцебск

**Па шкляной прамысловасьці:**

15. Шкло-завод „Пралятары"—Менск

**Па швэйнай прамысловасьці:**

16. Ф-ка імя Дзяржынскага—Бабруйск

Старшыня Урадавай Камісіі **Гнілякевіч.**

Адказны Сакратар **Гольдзенберг.**

10 лістапада 1930 г.

## Абежнік і інструкцыя народных камісарыятаў Унутраных Спраў і Фінансаў БССР.

### Паст. 193. Пра скасаваньне некаторых інструкцый і абежнікаў НКУС і НКЮ БССР у зьвязку з выданьнем Палажэньня пра адзіную дзяржаўную пошліну.

*Усім раённым выканаўчым камітэтам, гарадзкім, сельскім і мястэчковым саветам, адміністрацыйным аддзелам гарсаветаў і райвыканкомаў.*

Палажэньнем пра адзіную дзяржаўную пошліну і двумя пералікамі да гэтага палажэньня, абвешчанымі ў Зборы Законаў і Загадаў СССР за 1930 г. № 46, арт. 280, дакладна вызначан новы парадак спагнаньня адзінай дзяржаўнай пошліны, замест існаваўшага гэрбавага збору.

У зьвязку з выданьнем паказанага Палажэньня лічыць скасаванымі наступныя інструкцыі і абежнікі НК Унутраных Спраў і НК Фінансаў БССР:



1. Абежнік НК Унутраных Спраў і НК Фінансаў БССР за 28 студзеня 1929 г. № 3210-1 пра спагнаньне гэрбавага збору па дакумэнтах грамадзянскага стану, на імя ўсіх органаў запісаў актаў грамадзянскага стану і фінансавых аддзелаў АВК (Бюл. СНК БССР 1929 г. № 2, паст. 8).

2. Пункт 6 інструкцыі НК Унутраных Спраў БССР за 5 красавіка 1929 г. № 37 пра парадак зацьверджаньня статутаў таварystваў і саюзаў, якія ня маюць на мэце атрыманьня прыбыткаў (Бюл. СНК БССР 1929 г. № 6, арт. 19).

3. Абежнік НК Фінансаў і НК Унутраных Спраў БССР пра аплату заяў і дазволаў аб рэлігійных працэсіях, на імя ўсіх РВК і сельскіх саветаў (Бюл. СНК БССР 1929 г. № 10, паст. 8).

4. Пункт 2-гі Інструкцыі НК Фінансаў і НК Унутраных Спраў БССР пра спагнаньне прапісачнага збору ў гарадох і мястэчках БССР (Бюл. СНК БССР за 1928 г. № 12, паст. 2). Адзіная дзяржаўная пошліна павінна спаганяцца толькі за прапіску дакумэнтаў; выяўка асоб павінна ўтварацца бясплатна.

5. Пункт 5 інструкцыі НК Унутраных Спраў БССР за 10 кастрычніка 1928 г. пра парадак адчыненьня прадпрыемстваў паліграфічнай прамысловасьці, нагляд за імі і пра парадак карыстаньня хуткадрукарскімі і друкарскімі апаратамі (Бюл. СНК БССР 1928 г. № 13, паст. 10).

6. Пункт 3 інструкцыі НК Унутраных Спраў БССР за 16 верасьня 1929 г. пра ўжываньне пастановы СНК БССР пра фатаграфічныя, кінематаграфічныя і іншыя здымкі на тэрыторыі БССР (Бюл. СНК БССР 1929 т. № 11, паст. 16).

7. Пункты 37, 38 і 62 інструкцыі НК Унутраных Спраў БССР за 23 красавіка 1929 г. № 49 пра гандаль паляўнічым аружжам, агнязапасамі да яго і фэйервэркамі, аб набываньні, хаваньні і карыстаньні паляўнічым і спартыўным аружжам і агнязапасамі да яго і аб водпуску выбуховых вырабаў і дэтануючых матарыялаў (Загад Адмуправы НКУС за 13 ліпеня 1929 г. № 51).

Замест спагнаньня гэрбавага збору за ўсе пералічаныя ў п. п. 1—7 гэтага абежніку справы ў далейшым належыць спаганяць за заявы адзіную дзяржаўную пошліну ў разьмерах, якія вызначаны ў палажэньні пра гэтую пошліну.

Нам. Народнага Камісара Унутраных Спраў БССР **Я. Кроль.**

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР **Л. Бунін.**

11 лістапада 1930 г.
№ 90.

**Паст. 194. Па дапасаваньню палажэньня аб адзінай дзяржаўнай пошліне ў галіне спагнаньня пошліны пры выдачы агульнаграмадзянскіх замежных пашпартоў, віз на выезд з СССР і відаў на пражываньне для чужаземцаў.**

**1. У галіне выдачы замежных пашпартоў.**

1. Дзяржаўныя ўстановы, грамадзкія арганізацыі і прадпрыемствы аграмаджанага сэктару пры атрыманьні замежных пашпартоў для сваіх супрацоўнікаў, камандыруемых ва ўстаноўленым парадку заграніцу, а таксама для выяжджаючых з імі за кошт гэтых установаў членаў іх сем'яў (жонкі і недарослыя дзеці) ад уплаты пошліны вызваляюцца (арт. 3 палажэньня аб адзінай дзяржаўнай пошліне,—дадатак 1).

1. Паводле пастановы НКФ БССР за 17 кастрычніка 1930 г. № 21 падлягаюць вызваленьню ад уплаты пошліны за замежныя пашпарты наступныя асобы:

а) савецкія грамадзяне, якія зварочваюцца да месца свайго сталага пражываньня за-граніцу пасьля сканчэньня службы ў РСЧА альбо выяжджаючыя за-граніцу на час водпуску;

б) асобы, якія прыбылі з за-граніцы па прызыву на вайсковую службу і варочаюцца да месца свайго сталага пражываньня ў выпадку адтэрмінаваньня альбо вызваленьня ад вайсковай службы;

в) савецкія грамадзяне, якія працуюць ва ўстановах і арганізацыях СССР за-граніцай, пры звароце іх да месца службы пасьля праведзенага ў СССР водпуску, а таксама жонкі іх, прыяжджаючыя сумесна з імі.

3. Дапушчэньне выдачы замежных пашпартоў па льготных стаўках магчыма толькі ў выпадку прызнаньня Народным Камісарыятам Унутраных Спраў паездкі за-граніцу мэтазгоднай, пры чым канчатковае вырашэньне пытаньня аб дачы льгот утвараецца ў адпаведнасьці з арт. 8 палажэньня аб адзінай дзяржаўнай пошліне Наркамфінам БССР сумесна з НКУС.

Льготныя стаўкі ўстанаўляюцца дзьвёх катэгорый—50 і 100 руб.

## II. У галіне выдачы чужаземцам віз на выезд з СССР і відаў на пражываньне.

4. На падставе ўзаемнасьці ўстаноўлены асобныя стаўкі пошліны з наступных чужаземных грамадзян:

а) За візы на выезд з СССР:

1) Брытанскіх падданых—бясплатна;
2) Італьлянскіх . — „
3) Нямецкіх грамадзян — 1 руб. 86 кап.
4) Грэчаскіх „ — 2 руб. 25 кап.
5) Таксама на шматразовы пераезд . . . . . .— 3 руб. 75 кап.
6) Латвійскіх грамадзян —19 руб. —
7) Пэрсіцкіх „ —25 руб. —
8) Польскіх „ —10 руб. —
9) З гр-н Паўдн.-Амэр. Злуч. Штатаў . . . . . —20 руб. —
10) Турэцкіх гр-н . . — 6 руб. —
11) Эстонскіх „ . . —10 руб. —
12) Фінлянскіх гр-н. . — 7 руб. 50 кап.

Увага. Пры налажэньні выязной візы на нямецкім нацыянальным пашпарце, у які ўпісана некалькі членаў сям'і ўласьніка пашпарту, пошліна спаганяецца з кожнай асобы, якая мае больш 21 году, а асобы ва ўзросьце да 21 году ад збору вызваляюцца.

б) За віды на пражываньне:

1) Нямецкіх гр-н тэрмінам на 1 год—2 руб. 32 кап.

Увага. Пры адтэрмінаваньні віду на пражываньне да аднаго году, калі ён быў выдадзены на тэрмін менш году, збор не спаганяецца.

2) Італьлянскіх падданых—бясплатна.

5. З чужаземных гр-н, пералічаных у арт. 4, спаганяецца на агульных падставах 10 проц. надбаўка ў карысьць Чырвонага Крыжу.

6. За адтэрмінаваньне візы на выезд за-граніцу пошліна спаганяецца ў тым-жа разьмеры, як і за візу.

7. Пры выдачы чужаземцам віз на выезд з СССР пошліна спаганяецца з кожнай асобы, якая дасягнула 16 год, незалежна ад выдачы агульнай візы для ўсіх членаў сям'і, альбо кожнаму асобна, за выключэньнем нямецкіх гр-н (увага да п. 1 разьдзелу „б" арт. 4).

8. Пры выдачы або працягу тэрміну віда на пражываньне адміністрацыйнымі аддзеламі могуць вызваляцца пасьля прадстаўленьня адпаведных дакумэнтаў наступныя чужаземныя грамадзяне:

а) пэнсіянэры, якія атрымліваюць пэнсію ад органаў сацыяльнай забясьпекі або сацыяльнага страхаваньня;

б) беспрацоўныя, якія атрымліваюць дапамогу па беспрацоўю або маюць права на атрыманьне дапамогі;

в) палітычныя эмігранты па хадайніцтвах МОПР'у.

г) асобы, якія састаяць у калгасах.

*Увага.* Іншыя чужаземныя грамадзяне, якія не падыходзяць пад дзейнасьць п. п. „а", „б", „в" і „г" гэтага артыкулу, могуць вызваляцца ад пошліны толькі пры поўнай адсутнасьці ў іх маемасьці, крыніц даходу і дапамогі з боку сваякоў і арганізацый, г. зн. поўнай матарыяльнай незабясьпечанасьці.

9. Пры вызваленьні ад пошліны на відзе на пражываньне або іншым дакумэнце павінна быць зроблена адзнака: „ад пошліны вызвалены".

10. За пратэрмінаваны час відаў на пражываньне пошліна не спаганяецца, а ў такіх выпадках павінна накладацца адміністрацыйнае спагнаньне ў парадку пастановы НКУС № 64 за 8/VI-1929 г. (Бюл. СНК БССР 1929 г. № 7).

11. За рэгістрацыйныя адзнакі на нацыянальных пашпартох чужаземных консулаў, супрацоўнікаў консульстваў і членаў іх сем'яў пошліна не спаганяецца.

12. Асобы, якія заяўляюць аб прыналежнасьці да чужаземнага грамадзянства (маючыя віды на пражываньне па ф. № 2) у адносінах аплаты пошліны за віды на пражываньне і візы на выезд, павінны быць прыроўнены да чужаземцаў.

## III. Парадак уплаты пошліны і прадстаўленьня дакумэнтаў.

13. Пошліна за замежныя пашпарты, візы на выезд з СССР і віды на пражываньне ўносіцца грамадзянамі ў аддзяленьні Дзяржбанку, а дзе іх няма—у іншыя крэдытныя ўстановы, і квіткі аб спагнаньні пошліны прадстаўляюцца ў адмаддзелы разам з адпаведнымі заявамі.

14. У выпадку адмовы ў выдачы замежнага пашпарту або нескарыстаньня яго, унесеная пошліна зварочваецца грамадзянам адпаведнымі крэдытнымі ўстановамі па прадстаўленьні квітка з надпісам Замежнай Часткі НКУС аб звароце грошай.

15. Паказаныя ў арт. 1 гэтай інструкцыі ўстановы і арганізацыі для атрыманьня замежных пашпартоў павінны прадставіць у НКУС камандыровачныя пасьведчаньні за подпісам кіраўнікоў установаў, маючых права на камандыраваньне супрацоўнікаў за-граніцу.

16. Для аднясеньня да II катэгорыі па аплаце пошліны (арт. 6 пераліку ставак адзінай дзяржаўнай пошліны) гр-не БССР, якія жадаюць атрымаць замежныя пашпарты для выезду за-граніцу па прыватных справах, павінны прадставіць пры падачы заявы наступныя дакумэнты:

а) рабочыя, служачыя і прыроўненыя да іх беспрацоўныя, дзяржаўныя пэнсіянэры і вучні—даведку аб тым, што яны працуюць ў даным прадпрыемстве або ўстанове, альбо знаходзяцца на ўтрыманьні ўстаноў;

б) сяляне, саматужнікі, рамесьнікі і ўсе іншыя асобы—даведку райфінаддзелу або гарфінаддзелу аб тым, што не абкладаецца адзіным с.-г. падаткам у індывідуальным парадку, альбо падаходным падаткам па росьпісу № 3.

Увага. Асобы, якія знаходзяцца на ўтрыманьні сваякоў прадстаўляюць даведку аб абкладаньні падаткамі апошніх.

17. Наддатак у разьмеры 10 проц. у карысьць Таварыства Чырвонага Крыжу (увага 1 да п. 13 пераліку) уносіцца разам з асноўнай пошлінай за замежныя пашпарты і звароту не падлягае.

18. Пры ўзбуджэньні хадайніцтва аб дачы льготы па аплаце пошліны за замежны пашпарт павінен быць запоўнен апытальны ліст па прыкладзенай пры гэтым форме (дадатак № 2).

19. З выданьнем гэтай інструкцыі касуюцца наступныя абежнікі НКУС:

| | | | |
|---|---|---|---|
| За 6/VI - 29 г. | — № 55 | За 10/I - 30 г | — № 2 |
| „ 15/VIII „ | — № 62 | „ 10/III „ | — № 26 |
| „ 16/IX „ | — № 64 | „ 26/V „ | — № 44 |
| „ 7/XII „ | — № 80 | „ 20/VIII „ | — № 70 |
| „ 25/XII „ | — № 86 | „ 26/IX „ | — № 78 |

Нам. Народнага Камісара Унутраных Спраў БССР **Я. Кроль.**

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР **Л. Бунін.**

11 лістапада 1930 г.
№ 91.

**Дадатак 1.**

## Палажэньне аб адзінай дзяржаўнай пошліне.

1. Адзіная дзяржаўная пошліна спаганяецца:

а) у аплату паказаных у прыкладзеных пераліках дзеяньняў дзяржаўных органаў;

б) з паказаных у тых-жа пераліках дакумэнтаў.

2. Платнікі пошліны падзяляюцца на тры катэгорыі:

а) першая катэгорыя: дзяржаўныя ўстановы, грамадзкія арганізацыі і прадпрыемствы аграмаджанага сэктару;

б) другая катэгорыя: рабочыя, служачыя і прыроўненыя да іх асобы (беспрацоўныя, вучні і дзяржаўныя пэнсіянэры); сяляне, за выключэньнем абкладзеных адзіным сельска-гаспадарчым падаткам у індывідуальным парадку; саматужнікі і іншыя арганізацыі і асобы, апроч аднесеных да першай і трэцяй катэгорый;

в) трэцяя катэгорыя: асобы, якія абкладаюцца падаходным падаткам па росьпісу № 3, або адзіным сельска-гаспадарчым падаткам у індывідуальным парадку.

3. З платнікаў першай катэгорыі (дзяржаўных устаноў, грамадзкіх арганізацый і прадпрыемстваў аграмаджанага сэктару), пошліна спаганяецца толькі з іскавых заяў па справах, якія вытвараюцца ў судовых установах і ў арбітражных камісіях.

*Увага*. Прыраўнаньне прыватных прадпрыемстваў і асоб у адносінах уплаты падаткаў да прадпрыемстваў аграмаджанага сэктару не распаўсюджваецца на ўплату адзінай дзяржаўнай пошліны.

4. Стаўка пошліны для кожнай катэгорыі платнікаў і парадак яе ўплаты паказаны ў даданых пераліках (дадатак 1 і 2).

5. Пошліна ўплачваецца гатоўкаю, маркамі ўстаноўленага ўзору, або мяшаным спосабам, г. зн. частка гатоўкаю і частка маркамі.

6. Уплачаная пошліна звароту не падлягае, за выключэньнем наступных выпадкаў:

а) пры адмове ў выдачы агульна-грамадзянскага замежнага пашпарту пошліна зварочваецца з утрыманьнем 5 проц.;

б) пры нескарыстаньні агульна-грамадзянскага замежнага пашпарту пошліна зварочваецца па хадайніцтву платніка, з утрыманьнем 25 проц.;

7. Пошліна паступае ў мясцовы бюджэт.

8. Народным камісарыятам фінансаў саюзных рэспублік, а ў раёнаваных мясцовасьцях краявым (абласным) фінансавым органам даецца права ўстанаўляць выняткі па пошліне.

9. Інструкцыя па ўжываньню гэтага палажэньня выдаецца НК Фінансаў Саюзу ССР.

## ВЫПІС

### з пераліку ставак адзінай дзяржаўнай пошліны для платнікаў 2 і 3 катэгорый (грамадзян і прыватных юрыдычных асоб).

| | | | |
|---|---|---|---|
| 6. За выдачу агульна-грамадзянскага замежнага пашпарту . . . | 200 р. | 300 р. | Пры звароце або падачы адпаведных заяў. |
| 7. За ўнясеньне якіх-небудзь зьмен у выданы агульна-грамадзянскі замежны пашпарт . . . . . | 10 р. | 30 р. | |
| 8. За выдачу дазволаў на аднаразовы пераход або пераезд граніцы жыхарамі пагранічнай паласы . . | 50 к. | 2 р. | |
| 9. За выдачу дазволаў тэрмінам на 3 месяцы на шматразовы пераход або пераезд граніцы жыхарамі пагранічнай паласы . . . . . | 3 р. | 15 р. | |
| 10. За яўку (візу) чужаземнага пашпарту на выезд з Саюзу ССР . . | 5 р. | 5 р. | |
| 11. За яўку (візу) чужаземнага пашпарту на выезд з Саюзу ССР і зваротны ўезд у Саюз ССР (аднаразова) | 10 р. | 10 р. | |
| 12. За візаваньне чужаземнага пашпарту на шматразовы пераезд граніцы . . . . . . . | 30 р. | 30 р. | |
| 13. За выдачу або працяг чужаземнага віду на пражываньне на абшарах Саюзу ССР, незалежна ад тэрміну, а таксама за рэгістрацыю пашпарту | 5 р. | 5 р. | |

*Увага 1.* Да пошлін, якія аплачваюцца па арт. арт. 6—13, налічваецца надбаўка ў разьмеры 10 проц. у карысьць Таварыства Чырвонага Крыжу або Чырвонага Паўмесяцу адпаведнай саюзнай рэспублікі па месцу спагнаньня пошліны. Надбаўка ўносіцца адначасова з уплатай пошліны і звароту не падлягае.

*Увага 2.* НК па Замежных Справах, па ўзгадненьні з НК Фінансаў СССР, даецца права зьмены разьмеру пошлін, якія спаганяюцца за налажэньне віз на чужаземных пашпартох і за

выдачу чужаземцам відаў на пражываньне на падставе ўзаемнасьці, у адпаведнасьці з устаноўленай тэй або іншай дзяржавай платай для грамадзян Саюзу ССР.

---

**Дадатак 2.**

**У . . . . . . . . . . . . . адмін. аддзел**

Гр-на. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
(Прозьвішча, імя і імя па бацьку)

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
(Дакладны адрас)

ЗАЯВА

Маючы патрэбу паехаць за-граніцу і ня маючы магчымасьці па свайму матарыяльнаму становішчу заплаціць пошліну за замежны пашпарт, прашу дазволіць мне льготную аплату пашпарту, зьменшыўшы яе да . . . . . . . . . руб.

Пры гэтым дадаткова паведамляю аб сабе наступныя зьвесткі:

Апытальны ліст:

| №№ п/ч | ПЫТАНЬНІ: | АДКАЗЫ: |
|---|---|---|
| 1 | Год нараджэньня . . . . . . . . . | |
| 2 | Род заняткаў у сучасны момант, месца службы і разьмер месячнага заработку | |
| 3 | Ці ёсьць якія-небудзь дадатковыя крыніцы прыбытку, у паасобку ці атрымліваецца дапамога ад сваякоў, якія пражываюць у СССР. . . . . . . | |
| 4 | Склад сям'і . . . . . . . . . . . . . | |
| 5 | Ці ёсьць працаўнікі ў сям'і апроч Вас і калі ёсьць, пакажэце, хто іменна і чым займаюцца і разьмер месячнага заработку . . . . . . . . . . . | |
| 6 | Ці ёсьць сваякі за-граніцай і калі ёсьць, пакажэце, чым яны займаюцца, ці даюць матарыяльную дапамогу і ў якім разьмеры . . . . . . . . . . . | |
| 7 | Чым выклікаецца паездка за-граніцу і на які тэрмін. . . . . . . . . . | |
| 8 | На якія сродкі мяркуеце ехаць за-граніцу і там пражываць . . . . . . | |
| 9 | Ці карысталіся раней льготамі па аплаце збораў за пашпарт і калі . . . . . | |
| 10 | Якую суму замежнай валюты мяркуецца набыць у банку. . . . . . . . . | |

Адказнасьць за дачу няпраўдзівых зьвестак паводле арт. 135 Крымінальнага Кодэксу БССР мне абвешчана.

Подпіс

„ . . . . . . . . 193 г.

## Абежнік Народнага Камісарыяту Фінансаў і Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР.

### Паст. 195. Пра скасаваньне канцылярскага збору.

*Усім народным судам.*

Прымаючы пад увагу, што на падставе пастановы ЦВК і СНК СССР „Пра падатковую рэформу“ (З. З. СССР 1930 г. № 46, арт. 476) і паводле паведамленьня НКФ СССР за 23/X-1930 г. канцылярскі збор, які цяпер бярэцца паводле арт. 41 Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу, трэба лічыць скасаваным, НК Юстыцыі і НК Фінансаў БССР прапануюць народным судам на будучы час не спаганяць са старон канцылярскага збору, устаноўленага арт. 41 Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу.

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР **Л. Бунін.**

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **П. Валасевіч.**

14 лістапада 1930 г.
№ 47.

## Пастанова Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР.

### Паст. 196. Пра зьмену і дапаўненьне пастановы НКФ БССР за 17/X—1930 г. „Пра выняткі па адзінай дзяржаўнай пошліне“.

Народны Камісарыят Фінансаў БССР пастанаўляе:

1. Зьмяніць арт. 3 пастановы НКФ за 17/X-1930 г. № 21, (Бюл. СНК БССР 1930 г. № 22) пра выняткі па адзінай дзяржаўнай пошліне, запісаўшы яго ў такой рэдакцыі:

„3. Вызваліць ад адзінай дзяржаўнай пошліны, устаноўленай за выдачу агульна-грамадзянскіх замежных пашпартоў (арт. 6 пераліку ставак пошліны):

а) савецкіх грамадзян, якія варочаюцца да месца свайго сталага пражываньня за-граніцу пасьля сканчэньня службы ў РСЧА альбо на час свайго водпуску;

б) асоб, якія прыбылі з-за граніцы па прызыву на вайсковую службу і зварочваюцца да месца свайго сталага пражываньня ў выпадку адтэрмінаваньня альбо вызваленьня ад вайсковай службы;

в) савецкіх грамадзян, якія працуюць ва ўстановах і арганізацыях СССР за-граніцай, пры звароце іх да месца службы пасьля правядзеньня ў СССР водпуску, а таксама іх жонак, якія прыяжджаюць і варочаюцца сумесна з імі“.

2. Дапоўніць паказаную вышэй пастанову за 17/X-1930 г. № 21 артыкуламі $3^1$ і $3^2$ наступнага зьместу:

„$3^1$. Устанавіць льготныя стаўкі адзінай дзяржаўнай пошліны за выдачу агульна-грамадзянскіх замежных пашпартоў (арт. 6 пераліку ставак пошліны) у 50 і 100 руб.

Пошліна па льготных стаўках уплачваецца ў паасобных выпадках у залежнасьці ад матарыяльнага становішча платніка, пры абавязковай умове прызнаньня Народным Камісарыятам Унутраных Спраў паездкі за-граніцу мэтазгоднай.

Льгота даецца ў кожным паасобным выпадку, паводле адпаведных хадайніцтваў НК Фінансаў сумесна з НК Унутраных Спраў“.

„$3^2$. Дапусьціць вызваленьне ад адзінай дзяржаўнай пошліны, устаноўленай за выдачу альбо працягненьне чужаземцам віду на пражываньне ў СССР (арт. 13 пераліку ставак пошліны):

а) пэнсіянэраў, якія атрымліваюць пэнсію ад органаў сацыяльнага забясьпечаньня альбо сацыяльнага страхаваньня;

б) беспрацоўных, якія атрымліваюць дапамогу па беспрацоўю альбо маюць права на атрыманьне дапамогі;

в) асоб, якія знаходзяцца ў калгасах;

г) палітычных эмігрантаў паводле хадайніцтваў МОПР'у;

д) іншых чужаземцаў пры адсутнасьці ў іх маемасьці, крыніц даходаў і дапамогі з боку сваякоў альбо іншых асоб і арганізацый, г. зн., пры поўнай матарыяльнай незабясьпечанасьці.

Вызваляюць ад адзінай дзяржаўнай пошліны паводле гэтага артыкулу раённыя і гарадзкія, па належнасьці, адміністрацыйныя аддзелы, на падставе паданых дакумэнтаў і вестак, якія будуць у распараджэньні гэтых аддзелаў".

Народны Камісарыят Фінансаў БССР **Л. Бунін.**
**Айзінсон.**

11 лістапада 1930 г.
№ 22.

## Пастанова Калегіі Народнага Камісарыяту Земляробства БССР.

### Паст. 197. Пра ход месячніка па сьвінагадоўлі.

1. Ня гледзячы на шэраг канкрэтных дырэктыў партыйных арганізацый, Ураду і Калегіі НКЗ, Белкалгасцэнтр, Белмалжывёлсаюз, Белкалгасбуд і шэраг РайЗА і раённых калгасна-каперацыйных арганізацый, не дааценілі гаспадарча-палітычнага значэньня месячніку па сьвінагадоўлі і не перабудавалі сваёй працы на баявыя тэмпы для выкананьня і перавыкананьня плянавых заданьняў па будаўніцтву сьвінарнікаў і фармаваньню матачнага стада ў саўгасах і калгасах.

2. З атрыманых НКЗ зьвестак па становішчу на 30/X-г. г. ад 36 РайЗА відаць, што асабліва злачынна адстаюць і фактычна ня прыступілі яшчэ да камплектаваньня калгасаў сьвінаматкамі—Гомельскі, Расьнянскі, Коханаўскі, Багушэўскі, Бялынецкі, Чэрыкаўскі, Чавускі, Ветрынскі і Тураўскі РайЗА.

Аб становішчы працы ў астатніх раёнах з-за неатрыманьня зьвестак НК Земляробства ня мае магчымасьці зрабіць адпаведныя вывады.

3. Пытаньнямі арганізацыі рацыянальнага харчаваньня, догляду, утрыманьня сьвіней з выкананьнем зоавэтмінімуму сьвіна водными гаспадаркамі раённыя арганізацыі зусім не займаюцца.

Зьвяртаючы ўвагу на абсалютную недапушчальнасьць такіх адносін з боку Белкалгасцэнтру, Белмалжывёлсаюзу, Белкалгасбуду, РайЗА і раённых калгасна-каперацыйных арганізацый, Калегія НКЗ пастанаўляе:

1. Абавязаць усе РайЗА і раённыя калгасна-каперацыйныя сыстэмы пад асабістую адказнасьць кіраўнікоў, рашуча ўзмацніць кіраўніцтва і кантроль за ходам будаўніцтва спэцыялізаваных сьвінаводных саўгасаў і калгасаў з тым, каб абавязкова дабіцца поўнага выкананьня заданьняў у галіне сьвінагадоўлі.

2. Прапанаваць усім заг. РайЗА прыцягнуць да актыўнага ўдзелу ўвесь агра-зоатэхнічны і вэтэрынарны пэрсанал раёну да непасрэднага практычнага ажыцьцяўленьня мерапрыемстваў аб арганізацыі сьвінагадоўлі ў сацыялістычным сэктары сельскай гаспадаркі.

Разам з тым трэба дабіцца актыўнага ўдзелу ў правядзеньні гэтых мерапрыемстваў з боку сельсаветаў, зоавэтупаўнаважаных, усіх грамадзкіх арганізацый і асабліва камсамольскіх ячэяк і вясковага настаўніцтва, поўнасьцю выкарыстаўшы для гэтага апошнія дні месячніку па сьвінагадоўлі, працягнутага пастановай СНК БССР за 9/XI-1930 г. да 1/XII-1930 г.

3. Абавязаць Белкалгасцэнтр, Белкантору „Сьвінавод“, Белкалгасбуд і Белмалжывёлсаюз, пад асабістую адказнасьць кіраўнікоў рашуча перабудаваць працу і накіраваць ўвагу сваіх устаноў у бок поўнага выкананьня плянавых мерапрыемстваў у галіне сьвінагадоўлі, прыцягваючы да суровай адказнасьці асоб, зрываючых выкананьне плянаў.

4. Даручыць Праўленьню Белкалгасцэнтра разам з Белмалжывёлсаюзам у дэкадны тэрмін распрацаваць і падаць на зацьверджаньне Калегіі НК Земляробства пытаньне аб вылучэньні кадраў зоатэхнікаў для спэцыяльнага абслугоўваньня сьвінаводных калгасаў.

5. Адзначаючы зусім недастатковы ўдзел сьвінаводнага Інстытуту ў распрацоўцы арганізацыйна-вытворчых пытаньняў, зьвязаных з будаўніцтвам буйнай сацыялістычнай сьвінагадоўлі, даручыць Дырэкцыі Інстытуту максымальна выкарыстоўваць супрацоўнікаў Інстытуту і спэцыялістаў цэнтральных устаноў, шырока разгарнуць распрацоўку пытаньняў:

а) па ўдасканаленьні, стандартызацыі і механізацыі сьвінарнікаў і кухань;

б) па арганізацыі рацыянальнага кармленьня і штучных пашаў;

в) па папярэджаньні розных захварэньняў сьвіней і інш. у буйных прамыслова-сьвінаводных гаспадарках, забясьпечыўшы сыстэматычнае асьвятленьне гэтых пытаньняў у газэтах і часопісу „Шляхі Калектывізацыі“.

6. За злачынна-нядбайнае кіраўніцтва мерапрыемствамі па сьвінагадоўлі і недапушчальна маруднае выкананьне плянавых заданьняў па арганізацыі спэцыялізаваных сьвінаводных калгасаў абвясьціць суровую вымову загадчыкам Гомельскага, Коханаўскага, Ветрынскага, Бялынецкага, Узьдзенскага, Хойніцкага, Мазырскага, Дрыбінскага і Парыцкага РайЗА.

Адначасова папярэдзіць у другі раз усіх загадчыкаў РайЗА і райаграномаў аб абавязковай падачы сводак аб ходзе будаўніцтва сьвінарнікаў і фармаваньня матачнага стада ва ўстаноўлены НКЗ тэрмін па форме, разасланай 26/X-г. г. за № 5772.

7. Заслухаць на пасяджэньні Калегіі НКЗ 20/XI-1930 г. даклады загадчыкаў Лупалаўскага, Глускага, Жыткавіцкага, Плешчаніцкага, Капыльскага, Крычаўскага і Жлобінскага РайЗА аб ходзе месячніку сьвінагадоўлі.

8. Абавязаць штаб па правядзеньню месячніка сьвінагадоўлі прадставіць на пасяджэньне Калегіі 20/XI г. г. зьвесткі аб усіх заг. РайЗА, якія ня прыслалі паказаных сводак і нявыканаўшых заданьняў па будаўніцтву прамыслова-сьвінаводных саўгасаў і калгасаў з канкрэтнымі прапановамі аб мерах узьдзейнічаньня.

9. Гэтую пастанову зьмясьціць у друку.

Нам. Народнага Камісара Земляробства
БССР **К. Масюкоў.**

12 лістапада 1930 г.
№ прат. 45, п. 495.

### Паст. 198. Пра барацьбу са стратамі ў сельскай гаспадарцы.

Для забясьпечаньня больш магутнага тэмпу сацыялістычнага будаўніцтва ў сельскай гаспадарцы патрэбна, як мага шырэй, скарыстаць усе магчымасьці барацьбы са стратамі ў народнай гаспадарцы ў цэлым, і ў асаблівасьці—ў сельскай гаспадарцы, дзе гэтыя страты надзвычайна вялікія.

Хуткае атрыманьне буйных дасягненьняў у барацьбе са стратамі магчыма толькі праз скарыстаньне масавага вопыту, які ёсьць у непасрэдных удзельнікаў сацыялістычнай с.-г. работы, якія ведаюць усе дэталі, усе магчымасьці гаспадаркі. Для гэтага патрэбна арганізаваць вынаходніцтва і ўзьняць шырокую хвалю знізу прапаноў для палепшаньня работы.

Толькі пры злучэньні цьвёрдага рэжыму эканоміі ў скарыстаньні ўсіх вытворчых рэсурсаў з сацыялістычнай рацыяналізацыяй будзе забясьпечана найбольшае падвышэньне вытворчасьці працы, зьніжэньне сабекошту, будзе дасягнута найвышэйшае разьвіцьцё вытворчых сіл сельскай гаспадаркі.

Для таго, каб пасьпяхова весьці барацьбу са стратамі, патрэбна іх ведаць, што абавязвае зямельныя і калгасна-каперацыйныя органы прыступіць да распрацоўкі намэнклятуры страт, як гэта ўжо зроблена ў прамысловасьці, прыстасоўваючыся да асобных раёнаў і гаспадарак.

Трэба даць па кожнай канкрэтнай галіне вытворчасьці саўгасам і калгасам праграмы і паказаньні па барацьбе са стратамі, вылучыўшы пералік найбольш характэрных страт для данага раёну і гаспадарак.

Асноўным зьвяном у барацьбе са стратамі ў сельскай гаспадарцы павінны зьявіцца вытворчыя нарады, сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва, якія ўжо далі добрыя вынікі ў прамысловасьці. Гэтыя сацыялістычныя формы працы паівнны знайсьці шырокае ўжываньне таксама і ў сельскай гаспадарцы.

Даючы гэтыя агульныя ўстаноўкі ў якасьці першых паказаньняў НК Земляробства прапануе зямельным і калгасна-каперацыйным органам у тэрміновым парадку правесьці наступныя арганізацыйныя мерапрыемствы:

1) Вылучыць у трэстах, саўгасах і цэнтральных апаратах калгаснай сыстэмы асоб, на якіх ускласьці кіраўніцтва і адказнасьць за правядзеньне мерапрыемстваў па барацьбе са стратамі.

2) Усе раённыя зямельныя аддзелы павінны вылучыць у тых-жа мэтах працаўніка адпаведнай кваліфікацыі, усклаўшы аднак агульную адказнасьць за мерапрыемствы па барацьбе са стратамі на загадчыка РайЗА.

2) Вылучаным асобам выпрацаваць канкрэтны плян працы на апошні квартал 1930 году і на 1931 г.

Намэнклятуру страт распрацаваць, прыстасоўваючы яе да мясцовых умоў. Пляны працы і намэнклятуру прыслаць у месячны тэрмін у НК Земляробства для канчатковай распрацоўкі рэспубліканскай намэнклятуры страт у сельскай гаспадарцы.

4) Арганізаваць месячнік збору прапаноў па палепшаньню вытворчасьці ў саўгасах і калгасах, прыстасаваўшы гэта да абгаварэньня вытворчых праграм; за лепшыя прапановы ўстанавіць прэміі.

5) Шырока асьвятляць у друку, асабліва ў насьценных газэтах, задачы барацьбы са стратамі.

6) Усямерна дапамагаць і падтрымліваць новыя арганізацыйныя формы і мэтады барацьбы са стратамі, якія высунуты вопытам саўгасна-калгаснага будаўніцтва і ініцыятывай мас калгасьнікаў і рабочых саўгасаў.

7) Арганізаваць аперацыйны падлік працы і дасягненьняў у галіне барацьбы са стратамі. У канцы кожнага кварталу РайЗА, трэсты і калгасцэнтр павінны высылаць у НКЗемляробства кароткую сводку аб ходзе барацьбы са стратамі, з паказаньнем дасягнутых вынікаў.

8) Для сканцэнтраваньня ўвагі мас вакол пытаньня барацьбы са стратамі і ўцягненьня ў гэту справу рабочых, калгасьнікаў і камсамольскіх арганізацый прасіць рэспубліканскі Камітэт Саюзу С.-Г. і Л. Рабочых і ЦК ЛКСМ зьвярнуцца да с.-г. рабочых і моладзі з адкрытым лістом, у якім адзначыць неабходнасьць для справы сацыялістычнага будаўніцтва, вядзеньня барацьбы са стратамі ў сельскай гаспадарцы.

Даную пастанову Калегіі НКЗ БССР абвясьціць у друку.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **К. Масюкоў.**

26 кастрычніка 1930 г.
№ прат. 43, п. 461.

## Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР.

### Паст. 199. Пра перападлік спэцыялістаў народнае гаспадаркі.

Для найлепшага разьмеркаваньня і правільнага скарыстаньня спэцыялістаў народнае гаспадаркі Народны Камісарыят Працы БССР, на падставе пастановы Прэзыдыуму ЦВК БССР за 25/XI-1930 г. „пра забясьпечаньне раёнаў спэцыялістамі („Савецкая Беларусь“ за 29/XI-1930 г.) пастанаўляе:

1. Правесьці за час з 1 студзеня да 1 лютага 1931 г. пэрсанальны перападлік усіх спэцыялістаў народнае гаспадаркі, якія жывуць на тэрыторыі БССР; правядзеньне перападліку ўскласьці на гарадзкія кіраўніцтвы кадраў (біржы працы); у тых-жа мясцовасьцях, дзе гарадзкіх кіраўніцтваў кадраў няма—правядзеньне гэтае работы ўскладаецца на раённыя выканаўчыя камітэты з прыцягненьнем раённага інспэктара працы.

2. Перападліку падлягаюць усе спэцыялісты (мужчыны і жанчыны), якія працуюць па сваёй альбо іншай спэцыяльнасьці, а таксама непрацуючыя ў час перападліку:

а) усе скончыўшыя вышэйшыя тэхнічныя, транспартныя, сельскагаспадарчыя, лясныя, вэтэрынарныя навучальныя ўстановы, альбо аналёгічныя факультэты іншых вышэйшых навучальных устаноў;

б) усе скончыўшыя прамыслова-эканамічныя (был. камэрцыйныя) навучальныя ўстановы, эканамічныя факультэты (аддзяленьні) іншых вышэйшых навучальных устаноў;

в) усе скончыўшыя юрыдычныя факультэты, факультэты грамадзкіх навук, факультэты савецкага права і да т. п. вышэйшыя навучальныя ўстановы, калі гэтыя асобы на працягу апошніх трох год перад падлікам працавалі ў якасьці эканамістаў ня менш аднаго году;

г) усе скончыўшыя фізыка-матэматычныя факультэты ўнівэрсытэтаў;

д) усе скончыўшыя сярэдня-тэхнічныя, транспартныя, сельскагаспадарчыя, лясныя, межавыя, вэтэрынарныя і гаспадарчыя навучальныя ўстановы і тэхнікумы;

е) ня маючыя скончанай вышэйшай альбо сярэдняй тэхнічнай або сельскагаспадарчай асьветы (скончыўшыя ня менш трох курсаў)

у тым ліку тыя, што вучыліся альбо ня скончылі адпаведных курсаў за межамі, калі гэтыя асобы на працягу апошніх трох год перад падлікам мелі ня менш аднаго году стажу работы на інжынэрна-тэхнічных пасадах сярэдняга або вышэйшага пэрсаналу, альбо пасадах сярэдняга або вышэйшага пэрсаналу спэцыялістаў сельскай гаспадаркі;

ж) усе скончыўшыя ніжэйшыя тэхнічныя і сельскагаспадарчыя навучальныя ўстановы, альбо спэцыяльныя курсы, а таксама скончыўшыя ў сярэдніх і вышэйшых навучальных установах менш трох курсаў, калі гэтыя асобы мелі на працягу апошніх трох год перад падлікам ня менш 1 году стажу работы на інжынэрна-тэхнічных пасадах, альбо пасадах спэцыялістаў народнае гаспадаркі і займаюць у сучасны момант адпаведныя пасады сярэдняга альбо вышэйшага тэхнічнага або сельскагаспадарчага пэрсаналу;

з) спэцыялісты-практыкі, якія ня маюць спэцыяльнай тэхнічнай альбо сельскагаспадарчай асьветы, але маюць на працягу апошніх пяці год да моманту правядзеньня падліку ня менш двохгадовага стажу работы на інжынэрна-тэхнічных пасадах, альбо пасадах спэцыялістаў сельскай гаспадаркі і займаюць у сучасны момант адпаведныя пасады сярэдняга і вышэйшага тэхнічнага і сельска-гаспадарчага пэрсаналу;

і) навуковыя работнікі па ўсіх галінах, якія знаходзяцца на падліку сэкцыі навуковых работнікаў пры саюзе працаўнікоў асьветы, навуковыя работнікі навукова-дасьледчых інстытутаў і вопытна-паказальных навуковых установ, уключаючы асьпірантаў;

к) настаўнікі тэхнічных, транспартных, сельскагаспадарчых, аграномічных, лясных, межавых, ветэрынарных і гэадэзычных вышэйшых і сярэдніх навучальных установ, а таксама настаўнікі ўсіх іншых вышэйшых навучальных установ;

л) асобы, якія займаюць тэхнічныя пасады ў прамысловасьці і на транспарце (аплачваемыя па сетцы інжынэрна-тэхнічнага пэрсаналу), а таксама асобы, якія займаюць эканамічныя пасады ў прадпрыемствах і не задавальняюць паказаным у папярэдніх артыкулах патрабаваньням.

3. Скончыўшымі навучальныя ўстановы (п. п. а, б, в, г, д—арт. 2) лічацца асобы, якія маюць дыплём альбо пасьведчаньне аб сканчэньні тэарэтычнага курсу навучальнай установы, аб здачы асобных іспытаў і дыплёмных праектаў, а таксама асобы, якія маюць пасьведчаньні аб сканчэньні тэарэтычнага курсу навучальнай установы незалежна ад таго, калі і якую навучальную ўстанову яны скончылі.

Доказам належнасьці да груп, паказаных у п. „в“ арт. 3, зьяўляюцца пасьведчаньні аб сканчэньні тэарэтычнага курсу і пасьведчаньне адпаведнага органу аб працы ў якасьці эканаміста; да п. „е“ і „ж“—пасьведчаньне альбо даведка аб сканчэньні тэй ці іншай групы навучальнай установы і даведка ад прадпрыемства аб практычным стажы работы па спэцыяльнасьці; да п. „з“—адпаведнае пасьведчаньне ад прадпрыемства аб практычным стажы работы па спэцыяльнасьці; да п. „і“—пасьведчаньне альбо білет адпаведнага органу сэкцыі навуковых работнікаў, да п. „к“—пасьведчаньне, выданае адпаведнай навучальнай установай аб рабоце ў якасьці настаўніка.

4. Не падлягаюць перападліку:

а) грамадзяне СССР, якія знаходзяцца на сапраўднай ваеннай службе ў часьцях, штабах, кіраўніцтвах і ўстановах РСЧА, у рэзэрве начскладу РСЧА.

*Увага.* Спэцыялісты, якія знаходзяцца на ваеннай службе па вольнаму найму, падлягаюць падліку на агульных падставах.

б) грамадзяне СССР, якія прызнаны ва ўстаноўленым парадку страціўшымі працаздольнасьць на 50 і больш процантаў;

в) грамадзяне чужаземных дзяржаў, якія пражываюць на тэрыторыі БССР.

5. Асобы, якія ўжо знаходзяцца на падліку, у адпаведнасьці з пастановай НК Працы БССР за 23/І-1930 г. № 3 (Бюл. СНК БССР 1930 г. № 2) падляюгаюць перарэгістрацыі на агульных падставах.

6. Усе асобы, якія падлягаюць перападліку паводле арт. 2 гэтае пастановы і пражываюць у гарадох і раёнах, павінны асабіста зьявіцца ў кіраўніцтвы кадраў (біржы працы), а дзе такіх няма—у раённы выканаўчы камітэт.

7. Усе падлягаючыя перападліку асобы, якія працуюць у прадпрыемствах і ўстановах з колькасьцю спэцыялістаў ня менш 10, не павінны зьяўляцца асабіста на перападлік у кіраўніцтвы кадраў (біржы працы) альбо у РВК. У гэтых прадпрыемствах і ўстановах перападлік праводзіцца спэцыяльна вылучанай адміністрацыяй асобай, якая нясе пэрсанальную адказнасьць перад кіраўніцтвам кадраў (біржаю працы) і РВК за сваечасовасьць і правільнасьць правядзеньня перападліку.

*Увага.* Вылучаная адміністрацыяй асоба зараз-жа ўстанаўляе сувязь з адпаведным кіраўніцтвам кадраў альбо РВК, па паказаньні якіх і праводзіцца перападлік.

8. Асобы, якія павінны брацца на перападлік, падаюць пры падліку наступныя дакумэнты: а) пасьведчаньне (дыплём) аб асьвеце і рабоце, б) падлічальна-вайсковы дакумэнт, в) прафсаюзны і партыйны членскі білет.

На спэцыялістаў, якія працуюць у прадпрыемствах і ўстановах, паказаных у п. 7, паказаныя дакумэнты правяраюцца на месцы вылучанай асобай.

9. Асобы, якія ўзяты на падлік, паводле гэтай пастановы, павінны паведамляць адпаведнае кіраўніцтва кадраў альбо РВК аб наступных акалічнасьцях, пацьвярджаючы іх адпаведнымі дакумэнтамі: а) аб зьмене пасады, альбо месцы службы (падаецца даведка адміністрацыі па месцы службы), б) пра залічэньне на падлік навуковых работнікаў (падаецца даведка сэкцыі), в) пра паступленьне на сапраўдную ваенную службу ў РСЧА (праз падачу пасьведчаньня ваеннага ведамства і падлічальнага білету), г) пра зьмену партыйнасьці (праз паказаньне нумару партбілету і падачу заявы аб зьмене партыйнасьці), д) пра сканчэньне тэхнічнай альбо сельска-гаспадарчай навучальнай установы альбо спэцыяльных курсаў (праз прадстаўленьне адпаведнага дыплёму, пасьведчаньня), е) пра зьмену падлічальна-вайсковай кваліфікацыі (праз падачу падлічальна-вайсковага білету, альбо копіі яго першай старонкі), ж) пра аднаўленьне ў выбарных правох (праз падачу спраўкі ад мясцовага савету).

10. Асобы, якія знаходзяцца на падліку і зьмянілі месца пражываньня на тэрмін больш 6 месяцаў, павінны пасьля прыбыцьця на новае месца пражываньня даставіць асабіста адпаведнаму кіраўніцтву кадраў альбо РВК па новаму месцу пражываньня свой падлічальны білет для адзнакі аб пералічэньні на падлік.

11. Асобы, якія знаходзяцца на падліку паводле гэтай пастановы павінны, на патрабаваньню кіраўніцтва кадраў або РВК, па месцы знаходжаньня на падліку, падаць асабіста альбо выслаць па пошце падлічальны білет для зьмены або ўнясеньня зьмен.

12. Асобы, якія знаходзяцца на падліку і якія згубілі падлічальны білет, павінны зьмясьціць за свой кошт публікацыю аб страце

білету ў мясцовым друку і квіток аб прыёме публікацыі і заяву аб страце білету падаць асабіста альбо паслаць праз пошту ў кіраўніцтва кадраў або РВК па месцу знаходжаньня на падліку.

13. Асобы, якія знаходзяцца на падліку і прызнаны ва ўстаноўленым парадку страціўшымі на 50 і больш процантаў працаздольнасьць, павінны, разам з даведкай альбо пасьведчанай копіяй з яе, падаць асабіста альбо паслаць па пошце сэктару кадраў альбо РВК па месцу знаходжаньня на падліку падлічальны білет.

14. У выпадку сьмерці асобы, якая знаходзілася на падліку, родныя памёршага павінны перадаць падлічальны білет у домакіраўніцтва, а дзе такога няма—у мясцовы савет альбо РВК. Домакіраўніцтва, мясцовы савет альбо РВК павінны паслаць білет кіраўніцтву кадраў, альбо РВК па месцу знаходжаньня на падліку памёршага.

Адміністрацыя ўсіх прадпрыемстваў і ўстаноў павінна патрабаваць ад паступаючых на работу спэцыялістаў, якія падлягаюць падліку, падачы падлічальных білетаў з адзнакамі аб знаходжаньні на падліку; асобам, якія не знаходзяцца на падліку, павінен быць растлумачан абавязак іх узяцца на падлік. Аб асобах, якія ўхіляюцца ад падліку, прадпрыемства альбо установа паведамляе адпаведныя кіраўніцтвы кадраў альбо РВК. Асабістая адказнасьць па нагляду за знаходжаньнем на падліку спэцыялістаў народнай гаспадаркі ў прадпрыемствах і ўстановах ускладаецца пэрсанальна на кіраўнікоў спраў альбо сакратароў.

15. Прадпрыемствы і ўстановы павінны аслабаніць спэцыялістаў ад работы на час яўкі ў кіраўніцтва кадраў альбо РВК на падлік, захаваўшы за імі іх заработную плату.

16. Прадпрыемствы і ўстановы павінны выдаваць спэцыялістам, паводле іх заяў, даведку аб іх знаходжаньні на рабоце, аб зьмене пасады, аб пакіданьні работы ў даным прадпрыемстве альбо ўстанове, а таксама сьведчыць копіі дакумэнтаў аб асьвеце і стажы.

17. Калі сярод дакумэнтаў асоб, якія арыштаваны, у канцылярыю папраўных дамоў паступіць падлічальны білет, адміністрацыя папраўнага дому павінна паведаміць аб арышце ўласьніка білету адпаведны орган працы па месцы знаходжаньня арыштаванага на падліку.

18. Па паведамленьню кіраўніцтва кадраў або РВК, органы міліцыі правяраюць, ці знаходзіцца даная асоба на падліку, і прыцягваюць асоб, якія ўхіляюцца ад падліку, да адпаведнай крымінальнай адказнасьці.

19. Асобы, якія ўхіляюцца ад перападліку, альбо парушаюць правілы падліку, падлягаюць адказнасьці паводле артыкулу 102 Крымінальнага Кодэксу БССР, а кіраўнікі прадпрыемстваў і ўстаноў, якія ня выконваюць сваіх абавязкаў паводле гэтай пастановы, прыцягваюцца да адказнасьці па арт. 200 Крым. Кодэксу БССР.

20. З выданьнем гэтае пастановы касуецца пастанова НКП БССР за 23/I-1930 г. № 3 (Бюл. СНК БССР 1930 г. № 2).

Народны Камісар Працы БССР **М. Гнілякевіч.**

Ст. Інспэктар НКП БССР **Дземідовіч.**

10 сьнежня 1930 г.
№ 63.




Адказны Рэдактар **С. Лодысеў.**

Друк. Кір. Спраў СНК і Экан. Нар. БССР. З. № 280—4750 Галоўлітбел № 1572.